ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# БЛОК-НОТ АГІТАТАРА

АГІТМАСАВЫ АДДЗЕЛ ЦК КП(б)Б



## XVI ГОД КАСТРЫЧНІЦКАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

ЛІСТАПАД

№ 23 (38)

ПАРТЫЙНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
МЕНСК — 1933

# Пераможны шлях пралетарскай рэвалюцыі

Мінула 16 год з тых вялікіх гістарычных дзён, калі пролетарыят Расіі ў саюзе з бяднейшым сялянствам пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў і яе геніяльнага правадыра і настаўніка т. Леніна скінуў уладу буржуазіі і памешчыкаў і ўстанавіў дыктатуру пролетарыята.

«Мы маем права ганарыцца і мы ганарымся тым, што на нашу долю выпала шчасце **пачаць** пабудову Совецкай дзяржавы, **пачаць** гэтым новую эпоху сусветнай гісторыі, эпоху панавання **новага** класа, прыгнечанага ва ўсіх капіталістычных краінах...»—пісаў Ленін у артыкуле «Да чацвертай гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі». З таго часу прайшло 12 год. За гэты час наша партыя прарабіла велізарны па сваіх маштабах і перамогах шлях. У жорсткіх класавых баях партыя вяла краіну ад адной перамогі да другой, канчаткова і беспаваротна забяспечыла пабудову соцыялізма ў нашай краіне.

Наша краіна пад кіраўніцтвам ленінскай партыі, пад кіраўніцтвам геніяльнага прадаўжальніка справы В. І. Леніна — т. Сталіна стварыла магутны несакрушальны фундамент соцыялізма. Завяршэннем пабудовы фунда-

мента соцыялізма ў СССР ленінскае пытанне «хто каго?» поўнасцю і беспаваротна вырашана на карысць соцыялізма і ў горадзе і на вёсцы. У выніку ажыццяўлення першай пяцігодкі ліквідаваны ў асноўным паразітычныя класы, створана магутная перадавая ў тэхнічных адносінах соцыялістычная прамысловасць, сельская гаспадарка пераведзена на рэйкі буйнага соцыялістычнага земляробства, ліквідуецца супроцьлегласць паміж горадам і вёскай. Безупынная рупліваець партыі аб палепшанні матэрыяльных і культурных умоў жыцця працоўных, вялікі ўраджай соцыялістычных палёў сёлетняга года, магутны рост прадукцыі прамысловасці— усё гэта ўнесла рэальнае і карэннае палепшанне дабрабыта працоўных мас. Аб светлым і шчаслівым жыцці, што нясе соцыялізм, ведаюць дзесяткі мільёнаў працоўных нашай краіны не па кніжках, а па выніках сваёй гераічнай працы, па тых крутых зменах, якія ўнесла рэволюцыя сваімі перамогамі ў быт, у сям'ю, у культуру жыцця і працы рабочых і калгасных мас народаў Совецкага саюза.

Перамогі соцыялізма дабыты партыяй у жорсткіх баях з класавым ворагам і яго агентурай. Партыя разграміла буржуазныя тэорыі трацкізма аб немагчымасці пабудовы соцыялізма ў нашай краіне. Партыя разграміла правы апартунізм, які капітуляваў пе-

рад кулацтвам і буржуазнымі элементамі. У бязлітаснай барацьбе як з «левым», так і з правым апартунізмам і прымірэнцтвам да іх, няўхільна ажыццяўляючы сваю генеральную лінію, партыя забяспечыла выкананне першай пяцігодкі за чатыры гады і стварыла ўсе ўмовы для ажыццяўлення задач другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадства.

Упэўнена і цвёрда, несакрушальнай крэпасцю ўступае СССР у 17-ю гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі. Вышыні тэхнікі, заваёваныя намі ў прамысловасці, багаты ўраджай калгасных і совгасных палёў, узнятая ваенная магутнасць і ўзмацненне міжнароднага становішча СССР,—усе гэтыя перамогі, атрыманыя за 16 год рэволюцыі, ярка з'яюць на гістарычных шчытах пераможнага Кастрычніка.

А ў капіталістычных краінах рабочыя і працоўныя сяляне ідуць насустрач пятай галоднай зіме. Голад, холад, беспрацоўе, вострая нястача туліцца ў хатах пакутуючых працоўных капіталістычных краін. Пятая галодная зіма ідзе поруч з шалёнай падрыхтоўкай імперыялістычнай вайны і хваляй крывавага фашысцкага тэрора. Здань замучаных фашыстамі адважных рэволюцыйных пролетарыяў лунае па рабочых кварталах, узнімае волю да барацьбы, ненавісць да капіталізма, расце і шырыцца любоў і гара-

чая сімпатыя да СССР—адзінай соцыялістычнай бацькаўшчыны.

Ад Кітая, дзе самаафярна змагаецца гераічная Чырвоная армія кітайскіх рабочых і сялян, да рабочых ваколіц Берліна, дзе нямецкія пролетарыі адбіваюць атакі фашыстаў; ад ПАЗШ, дзе паліцыя расстрэльвае галадаючых рабочых, дзе пролетарыі не маюць работы, галадаюць і халадаюць, да 300-мільённай Індыі, якая ўзнімаецца супроць англійскага імперыялізма за сваю незалежнасць; ад японскіх вёсак да канадскіх фермаў, дзе галадаючыя сяляне вымушаны жабраваць у той час, як у краіне маюцца вялікія лішкі прадуктаў,—усюды, дзе адбываюцца рэволюцыйныя сутычкі рабочых, прыгнечаных сялян з капіталістамі, памешчыкамі, каланіяльнымі рабаўласнікамі, — жыве наша Кастрычніцкая рэволюцыя, яе сцяг кліча, будзіць, надае бадзёрасць. Пад комуністычным сцягам змагаюцца і перамагаюць!

Сусветнае значэнне Кастрычніцкай рэволюцыі заключаецца не толькі ў тым, што яна з'яўляецца вялікім пачынам адной краіны ў справе прарыва сістэмы імперыялізма і першым ачагом соцыялізма ў акіяне імперыялістычных краін, але «таксама і ў тым, што яна складае першы этап сусветнай рэволюцыі і магутную базу яе далейшага развіцця» (Сталин, Вопросы ленинизма, стр. 202).

«...Варта было нам прарабіць будаўнічую работу на працягу якіх-небудзь 2—3 год, варта было паказаць поспехі пяцігодкі, каб увесь свет раскалоўся на два лагеры, на лагер людзей, якія брэшуць на нас без стомы, і лагер людзей, якія здзіўлены поспехамі пяцігодкі, не гаворачы ўжо аб тым, што ёсць і ўзмацняецца наш уласны лагер ва ўсім свеце,—лагер рабочага класа капіталістычных краін, які радуецца поспехам рабочага класа СССР і гатовы аказаць яму падтрыманне на страх буржуазіі ўсяго света...

Гэта значыць, што капіталістычныя краіны чрэваты пролетарскай рэвалюцыяй, і іменна таму, што яны чрэваты пролетарскай рэвалюцыяй, буржуазія хацела-б пачарпнуць у няўдачах пяцігодкі новы аргумент супроць рэвалюцыі, і наадварот, пролетарыят стараецца пачарпнуць і сапраўды чэрпае ў поспехах пяцігодкі новы аргумент за рэвалюцыю, супроць буржуазіі ўсяго света.

**Поспехі пяцігодкі мабілізуюць рэвалюцыйныя сілы рабочага класа ўсіх краін супроць капіталізма**—такоў бясспрэчны факт». (Сталін, Вынікі першай пяцігодкі, стар. 13).

Сусветна-гістарычнае значэнне пройдзенага пролетарыятам СССР у саюзе з працоўнымі

масамі шляху ад заваявання ўлады ў Кастрычніку 1917 г. да сёнешняга дня заключаецца ў тым, што гэта ёсць наступальны рух дыктатуры пролетарыята праз забранне адной крэпасці за другой, перамагаючы ўсякія перашкоды і цяжкасці на сваім шляху да канчатковай мэты міжнароднага пролетарыята—да пабудовы комуністычнага грамадства.

## Фундамент соцыялістычнай эканомікі пабудован

За 16 год пролетарскай рэволюцыі змяніўся твар нашай совецкай зямлі. СССР стала краінай буйнай індустрыі, апіраючайся на перадавую тэхніку. Індустрыялізацыя краіны з'явілася асновай соцыялістычнай рэканструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

> «Сапраўднай і адзінай базай для ўзмацнення рэсурсаў, для стварэння соцыялістычнага грамадства з'яўляецца адна і толькі адна — гэта буйная прамысловасць...» «Без высокапастаўленай буйнай прамысловасці не можа быць і гутаркі аб соцыялізме наогул». «Прымаючы пад увагу прыродныя асаблівасці Расіі, мы гэтую базу буйнай прамысловасці можам падвесці пад нашу эканоміку, павінны падвесці і падвядзем» (Ленін).

Партыя, няўхільна ажыццяўляючы ленінскія заветы, узяўшыся за асноўнае звя-

но—цяжкую прамысловасць, правяла пад кіраўніцтвам свайго правадыра т. Сталіна соцыялістычную рэканструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі, падняла краіну на ўзровень самай высокай перадавой тэхнікі.

Падагульняючы вынікі першай пяцігодкі, т. Сталін сказаў:

> «У нас не было чорнай металургіі, асновы індустрыялізацыі краіны. У нас яна ёсць цяпер.
>
> У нас не было трактарнай прамысловасці. У нас яна ёсць цяпер.
>
> У нас не было аўтамабільнай прамысловасці. У нас яна ёсць цяпер.
>
> У нас не было варштатабудаўніцтва. У нас яно ёсць цяпер.
>
> У нас не было сур'ёзнай і сучаснай хімічнай прамысловасці. У нас яна ёсць цяпер.
>
> У нас не было сапраўднай і сур'ёзнай прамысловасці па вырабу сучасных сельскагаспадарчых машын. У нас яна ёсць цяпер.
>
> У нас не было авіяцыйнай прамысловасці. У нас яна ёсць цяпер.
>
> У сэнсе выпрацоўкі электрычнай энергіі мы стаялі на самым апошнім месцы. Цяпер мы вышлі на адно з першых месц.
>
> У сэнсе здабывання нафтавых прадуктаў і вугаля мы стаялі на апошнім

месцы. Цяпер мы вышлі на адно з першых месц.

У нас была толькі адна адзінная вугальна-металургічная база—на Украіне, з якой мы ледзь спраўляліся. Мы дабіліся таго, што не толькі аднавілі гэтую базу, але стварылі яшчэ новую вугальна-металургічную базу—на Ўсходзе, якая з'яўляецца гонарам нашай краіны.

Мы мелі толькі адну адзіную базу тэкстыльнай прамысловасці—на Поўначы нашай краіны. Мы дабіліся таго, што будзем мець у бліжэйшы час дзве новыя базы тэкстыльнай прамысловасці—у Сярэдняй Азіі і Ўсходнім Сібіры.

І мы не толькі стварылі гэтыя новыя велізарныя галіны прамысловасці, але мы іх стварылі ў такім маштабе і ў такіх памерах, перад якімі бляднеюць маштабы і памеры еўрапейскай індустрыі.

А ўсё гэта прывяло да таго, што капіталістычныя элементы выцеснены з прамысловасці канчаткова і беспаваротна, а соцыялістычная прамысловасць стала адзінай формай індустрыі ў СССР...

Нарэшце, усё гэта прывяло да таго, што з краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Совецкі саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абароназдольнасці, у краіну, гатовую да ўсякіх вы-

падковасцяй, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забяспечыць імі сваю армію ў выпадку напада звонку». (Сталін, Вынікі першай пяцігодкі, стар. 20—22).

## Краіна ахоплена пафасам асваення новай тэхнікі

Мы ў асноўным выканалі задачу падвядзення базы новай сучаснай тэхнікі пад прамысловасць, транспарт, сельскую гаспадарку, нам удалося на аснове соцыялістычнай індустрыялізацыі падняць абарсназдольнасць краіны на належную вышыню. Ва ўвесь рост перад намі паўстала задача асваення новапабудаваных фабрык і заводаў, асваення тэхнікі, узняцця вытворчасці працы.

У галіне машынізацыі мы зрабілі гіганцкі крок наперад. У сельскагаспадарчым машынабудаўніцтве краіна ў канцы першай пяцігодкі мела 14 500 варштатаў, г. зн. на 2 300 больш, чым у ПАЗШ. Трактарны парк у сельскай гаспадарцы дасягнуў у 1933 г. 2 млн. 50 тыс. конскіх сіл, у тым ліку па БССР 33 395 конскіх сіл супроць 9 545 у 1928 г.

Але яшчэ больш значнымі выглядаюць магчымасці ўжо сёння працуючых трактарных заводаў. Дасягнуўшы сваёй праектнай магутнасці СТЗ і ХТЗ дадуць у 1933 г.

1 050 тыс. конскіх сіл. Трактарныя заводы на працягу першых 8-мі месяцаў 1933 г. не толькі выконваюць вытворчыя заданні, але і перавыконваюць іх. Той узровень, на якім сёння трактарныя заводы працуюць, дазваляе ім выпусціць на палі Совецкага саюза ў 1934 г. яшчэ мінімум 1 200 тыс. конскіх сіл. Такім чынам, створаныя ў першай пяцігодцы магутныя трактарныя заводы ўжо ў першыя два гады 2-ой пяцігодкі дадуць такую колькасць машын, якая перавысіць магутнасць таго трактарнага парка, што быў у краіне ў пачатку 1933 г.

Пачаў працаваць **Чэлябінскі** трактарны завод. Цяпер ён пакуль што набірае хуткасць, каб з 1934 г. даваць сотні тысяч, а затым і мільёны конскіх сіл у год. (Яго поўная магутнасць—40 тыс. гусенічных трактараў па 60 сіл кожны.)

У першай пяцігодцы створаны заводы камбайнаў, з вытворчай магутнасцю ў 40 тыс. камбайнаў у год, у той час як ПАЗШ у самы лепшы—1929 год выпусцілі 36 900 камбайнаў.

У сельскай гаспадарцы на індывідуальны сялянскі двор прыпадала ў 1928 г. сельскагаспадарчых машын на 30 руб. А ў 1932 г. на кожны калгасны двор прыпадала на 72 руб. 80 кап. сельскагаспадарчых машын з усё больш узрастаючай часткай буйнага трактарнага інвентара.

Вугальнай прамысловасці за гады першай

пяцігодкі здадзена ў эксплаатацыю 129 буйных шахт, з агульнай гадавой магутнасцю ў 50 млн. **т** вугля. Здабыча вугля ў пачатку першай пяцігодкі складала 35 млн. **т.** У канцы першай пяцігодкі яна складала 62 500 000 **т.** Рост амаль што ў два разы.

Аднак, трэба сказаць, што ў 1933 годзе вугальная прамысловасць марудна выконвае свае абавязкі.

Партыя паставіла перад Донбасам задачу — забяспечыць бесперабойную работу транспарта, фабрык і заводаў. Каменнавугольная прамысловасць у чацвертым квартале 1933 г. павінна даць у суткі не менш 250 тыс. **т** вугля,—вось задача, якая стаіць перад усім пролетарыятам Донбаса.

Па **чорнай металургіі** прырост магутнасці доменных печаў складае 4 млн. т, г. зн.— падваенне ў параўнанні з тым, што мела краіна ў пачатку першай пяцігодкі. На колькі вялікі задачы ў справе асваення новай тэхнікі ў чорнай металургіі, відаць з наступных лічбаў: выплаўка чыгуна ў пачатку першай пяцігодкі складала 3 500 000 **т.** За гады першай пяцігодкі выплаўка павялічылася на 2 900 000 **т.** У 1933 г. выплаўка чыгуна дала значны рост. Як відаць са зводак, якія штодзень публікуюцца ў «Правде», выплаўка чыгуна складае за дзень у сярэднім 22—23 тыс. **т.** Але магутнасць пачаўшых працаваць доменных печаў яшчэ цалкам не асвоена і перад

чорнай металургіяй стаіць задача—даваць у суткі 26 тыс. **т** чыгуна.

У 1933 г. уступіў у строй **Уральскі завод цяжкага машынабудаўніцтва.** У гэтым-жа годзе будуць пушчаны асноўныя цэхі **краматорскага завода.** Абодва яны будаваліся ў гады першай пяцігодкі. Але іх уплыў на абсталяванне нашай металургіі навейшымі машынамі толькі пачынаецца. Сёння Уральскі завод набірае тэмпы і ідзе пакуль што на ўзроўні 30 тыс. **т** прадукцыі замест 100 тыс. **т,** магчымых для яго. «Краматорка» толькі ў 1934 г. разгорне сваю вытворчасць. Гэта—заводы, для якіх сапраўды няма такой машыны па сваёй вазе і памеру, якую-б яны не змаглі зрабіць.

Сярод гіганцкіх прадпрыемстваў, створаных у першую пяцігодку, пачэснае месца займае **Луганскі** паравозабудаўнічы завод. Сёння ён толькі наладжвае вытворчасць, але ўжо ў 1934 г. ён павінен даваць сотні паравозаў у паўтары разы магутнейшыя за дзейнічаючыя цяпер на нашых чыгунках. Яго поўная магутнасць—1 080 паравозаў. Яго ўплыў на карэнную рэканструкцыю і рэзкае ўзмацненне чыгуначнага транспарта толькі пачынаецца.

## Магутны рост індустрыялізацыі БССР

Рабочыя і калгасныя масы БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б, пры брацкай дапамозе

пролетарыята Совецкага саюза, на аснове ажыццяўлення ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі дабілася велізарных поспехаў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

У параўнанні з даваенным часам прадукцыя прамысловасці БССР вырасла ў 10 разоў, а за гады першай пяцігодкі, у параўнанні з 1927-28 г., у 5 разоў. Калі ў 1927-28 г. у цэнзавай прамысловасці БССР было 244 тыс. рабочых і служачых, то ў 1932 г. мы ўжо маем 540 тыс. На 300 тыс. чал. павялічылася колькасць рабочых і служачых па ўсіх галінах працы ў прамысловасці БССР.

У рэзультаце паспяховага ажыццяўлення планаў першай пяцігодкі значна ўзрасла роля і месца БССР у радзе галін прамысловасці СССР, асабліва па лініі лёгкай індустрыі. Як напрыклад: запалкавая прамысловасць нашай рэспублікі дае ўжо 22,3 проц. агульнай выпрацоўкі па СССР, швейная прамысловасць—10,7 проц. саюзнай прадукцыі, папяровая прамысловасць—8,8 проц., трыкатажная прамысловасць—5,7 проц., скурана-абутковая прамысловасць—4,6 проц.

Першая пяцігодка стварыла ў Беларусі тэхнічна ўзброеную прамысловасць. У асноўных трох прамысловых раёнах БССР—Менскім, Віцебскім і Гомельскім праведзена карэнная тэхнічная рэканструкцыя старых заводаў, пабудавана Асінаўская электрастанцыя

імя Сталіна, пабудаван Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Гомельскі сельмаш, пабудаваны волаты швейнай і тэкстыльна-трыкатажнай прамысловасці. Такімі прадпрыемствамі, як фабрыка «КІМ», «Сцяг Індустрыялізацыі», Бабруйскі камбінат і інш. Совецкая Беларусь сапраўды можа ганарыцца.

1933 год у Совецкай Беларусі адзначаецца буйнейшымі поспехамі ў галіне новага прамысловага будаўніцтва. Ужо ў пускавым перыядзе магутны механізаваны Крычаўскі цэментны завод. Каля Гомеля, у Касцюкоўцы, заканчваецца будаўніцтва буйнейшай у СССР узброенай навейшай тэхнікай гуты, вытворчасць якой перавысіць выпрацоўку ўсіх працуючых цяпер на тэрыторыі рэспублікі заводаў. Ужо скончан мантаж першай сістэмы генератарнай станцыі на гэтым заводзе. Устаноўлен вадаправод. Выпрабаваная апаратура газаачысткі дала добрыя вынікі. Такім чынам да XVI гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі БССР пусціць у ход яшчэ адзін волат прамысловасці.

Перад пролетарыятам БССР, як і перад пролетарыятам усяго Совецкага саюза зараз пастаўлена задача асваення пабудаваных фабрык і заводаў.

Ліпеньскі пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б адзначыў, што калі працэс тэхнічнага абсталявання нашых прадпрыемстваў прайшоў зда-

вальняюча, то вельмі зацягваецца працэс іх поўнага асваення. Прамысловасць рэспублікі за першае паўгоддзе 1933 г. выканала план пры нізкіх якасных і колькасных паказчыках. Лёгкая прамысловасць Беларусі выканала план толькі на 84,1 проц., а цяжкая на 82,5 проц. Беларуская прамысловасць павінна была знізіць сабекошт у першым квартале на 1,5 проц., а ў другім квартале на 3,6 проц. Фактычна сабекошт за першыя 5 месяцаў першага паўгоддзя павялічыўся на 4,5 проц. Толькі лёгкая прамысловасць не дадала дзяржаве прадукцыі за паўгоддзе на 23 630 000 руб. і панесла страты на 6 млн. руб.

Пленум з вычарпальнай яснасцю фармуляваў асноўныя прычыны прарыва як у рабоце старых, рэканструяваных, так і ўноў пабудаваных волатаў першай пяцігодкі. Гэтыя прычыны заключаюцца ў тым, што некаторыя работнікі прамысловасці «не зрабілі неабходных вывадаў з рашэнняў студзеньскага і верасnёўскага пленумаў ЦК УсеКП(б), пленумаў ЦК КП(б)Б і пазнейшых рашэнняў ЦК УсеКП(б) аб Донбасе, аб перабудове зверху данізу работы па кіраўніцтву прамысловасцю».

Пад кіраўніцтвам КП(б)Б пачалася перабудова метадаў кіраўніцтва прамысловасці. Гэтая перабудова павінна быць закончана ў найкарацейшыя тэрміны. Поўнасцю, без агаворак трэба выканаць пастанову аб набліжэнні

кіраўніцтва непасрэдна да цэхаў, аб перакідцы спецыялістаў непасрэдна ў цэх.

У IV квартале павінна быць ліквідавана запазычанасць за першыя 3 кварталы. У гэтым квартале трэба забяспечыць фабрыкі і заводы апалам на ўвесь зімовы перыяд, падрыхтаваць прадпрыемствы да зімы, рашуча палепшыць тэхнічнае кіраўніцтва, закончыўшы перабудову тэхналагічных працэсаў.

В. І. Ленін вучыў нас, што «лепшы спосаб адсвяткаваць гадавіну вялікай рэвалюцыі— згуртаваць увагу на яе невырашаных пытаннях». Вось чаму, святкуючы XVI гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, мы павінны ўсю ўвагу накіраваць на тое, каб ліквідаваць усе прарывы ў рабоце нашых фабрык і заводаў.

Укараненне новай тэхнікі, як базы соцыялістычнай гаспадаркі, карэнным чынамператварае ўсе ранейшыя выгляды працы і прафесіі. У прамысловасць СССР за гады пяцігодкі прыбыло на два мільёны новых кваліфікаваных рабочых. У сельскай гаспадарцы падрыхтавана 4 500 тыс. чалавек для новых прафесій, патрэбных буйнай механізаванай гаспадарцы.

Колькасць совецкай інтэлігенцыі дасягнула 3 млн. чалавек. Ва ўсіх вытворчых галінах народнай гаспадаркі зараз працуюць 420 тыс. чал. з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай асветай. З іх 108 тыс. прышлі з вышэйшай

школы за гады першай пяцігодкі і 30 тыс. за першы год другой пяцігодкі. Рост вытворчасці працы ажыццяўляецца такім чынам пры аднача́совым камплектаванні новых кадраў і навучанні іх.

Гэтыя кадры ў гады першай пяцігодкі толькі набіралі вопыт. Моц соцыялістычнай сістэмы і тых вагароў павышэння вытворчасці працы, якія ёй даступны, заключаецца ў тым, што нават пры гэтых умовах вытворчасць працы вырасла за гады пяцігодкі на 41 проц. і ў два разы перавысіла ўзровень 1913 г. Вялікі рост вытворчасці працы меў месца не толькі ў галінах высока ўзброеных тэхнікай, але і ў галінах, якія ад цяжкой ручной працы ледзь толькі пачалі пераходзіць да машыннага спосаба вытворчасці. Рабочы ў тарфяной прамысловасці даваў у 1928 г. у сезон 36 **т** торфа, а ў 1932 г. ён даваў ужо 62 **т**.

У першыя гады свайго існавання, дзякуючы перавазе буйнай соцыялістычнай гаспадаркі і росту тэхнікі, калгасы знізілі затрату працы на 1 **га** зямлі ў два разы ў параўнанні з індывідуальнай гаспадаркай. Змяняецца культура працы, кваліфікуюцца мільёны людзей, узнікаюць новыя масавыя прафесіі, ствараюцца новыя слаі інжынераў і тэхнікаў.

Мы жывём, па сутнасці, толькі ў пачатку рэалізацыі велізарнага вопыта, сабранага ў гады першай пяцігодкі. Не мільёны, а дзе-

сяткі мільёнаў прышлі і прыходзяць да свядомай творчай работы на справу соцыялізма.

## Мы перамагаем на вадзе, у паветры і на зямлі

Найбольш ясна выявіліся нашы дасягненні ў галіне асваення тэхнікі ў другой палове 1933 г. у будаўнічай, авіяцыйнай і аўтамабільнай прамысловасці. Пуск Балтыйска-Беламорскага канала, палёт у стратасферу, 10 000-кілометравы прабег нашых аўтамабіляў прыцягнулі да сябе ўвагу ўсяго света. Мы сапраўды авалодваем тэхнікай, і не толькі авалодваем, але і далёка ззаду пакінулі ў некаторых галінах бышыя калісці перадавымі капіталістычныя краіны.

Мы злучылі Балтыйскае мора з Белым. Раней, каб дабрацца вадой у Мурманск, трэба было, выехаўшы з Ленінграда, абагнуць увесь Скандынаўскі паўвостраў. Не трэба сюды дадаваць, што ў гады грамадзянскай вайны гэты шлях быў для нас амаль што закрыт. Цяжка было развіваць лесапрамысловасць Карэльскай рэспублікі, што дрэнна адбівалася на сабекошт экспартнай лесапрадукцыі.

Зараз гэтыя перашкоды знішчаны. Няма больш і Скандынаўскага паўвострава. Большэвікі змянілі геаграфію гэтай часткі земнага шара. Прарэзаўшы тую частку зямлі, якая злучала Скандынавію з кантынентам,

большэвікі перарабілі Скандынавію з паўвострава ў востраў.

30 верасня над Масквой падняўся на 19 тыс. метраў у стратасферу наш стратастат «СССР», пабіўшы сусветны рэкорд. У той самы дзень у Маскву вярнулася калона аўтамабіляў нашай совецкай вытворчасці, якая прайшла 10 тыс. кілометраў Масква — Каракум — Масква.

Гэтыя поспехі краіны пролетарскай дыктатуры выклікаюць вялікую радасць у нашых баявых таварышоў і прыяцеляў унутры краіны і за рубяжом. Дзесяткі заводаў, мільёны рабочых і работніц, спецыялістаў і навуковых працаўнікоў стварылі тэхнічныя сродкі, пры дапамозе якіх атрыманы перамогі ў паветры і на зямлі. Усе працоўныя Совецкага саюза з'яўляюцца гаспадарамі створаных пяцігодкай велізарных тэхнічных сродкаў. Аўтамабілі, якія перашлі каракумскія пяскі, стратастат, які прабраўся ў яшчэ не зведаныя чалавекам слаі атмасферы,—гэта ўласныя дасягненні пролетарскай дзяржавы, тварцамі і ўдзельнікамі якіх з'яўляюцца ўсе працоўныя нашай краіны. У капіталістычных краінах аўтамабільныя прабегі і палёты з'яўляюцца сродкам рэкламы і крыніцай павелічэння прыбыткаў асобных капіталістычных прадпрыемстваў. Капіталізм не ведае іншых законаў, апрача закона нажывы і гвалта над працоўнымі. У нашай краіне ўсё робіцца для ства-

рэння новага, радаснага, сацыялістычнага жыцця, пра якое марылі, за якое змагаліся і гінулі лепшыя людзі ўсіх папярэдніх эпох.

Нас радуе тое, што стратастат адкрывае магчымасць даследваць паветраныя прасторы, касмічныя прамені, якія могуць быць новай крыніцай сіл у барацьбе са стыхіяй прыроды. Аўтамабілі, якія праклалі новыя шляхі, даследвалі новыя раёны, шумам сваіх матораў паведамілі ў вёскі, калгасы, рэспублікі, нацыянальныя раёны і краі аб перадавой індустрыяльнай культуры, заваяванай у баях за аўладанне тэхнікай.

І ўсё гэта для таго, каб было яшчэ больш хлеба, гародніны, фруктаў, новых пасёлкаў, гарадоў, дамоў, шляхоў, школ, тэатраў, кіно, бібліятэк, шмат зеляніны, кветак, сонца для гаспадароў Совецкага саюза—для рабочых і калгаснікаў.

## Социялістычнае земляробства—буйнейшая заваёва рэволюцыі

Ленін пісаў:

> «Пакуль мы жывем у дробнасялянскай краіне, для капіталізма ў Расіі ёсць больш моцная эканамічная база, чым для комунізма. Гэта неабходна запамятаць. Кожны, хто ўважліва назіраў за жыццём вёскі, у параўнанні з жыццём горада, ведае, што мы каранёў капіта-

лізма не вырвалі і фундамент, аснову ў унутранага ворага не падарвалі. Апошні трымаецца на дробнай гаспадарцы, і каб падарваць яго, ёсць адзін сродак—перавесці гаспадарку краіны, у тым ліку і земляробства, на новую тэхнічную базу, на тэхнічную базу сучаснага буйнага вытворства» (Ленин, том XXVI, стр. 46, изд. 3-е).

І вось шлях, які намячаў Ленін:

> «знішчыць класы...—гэта значыць таксама **знішчыць дробных таваравытворцаў**, а іх **нельга прагнаць**, іх нельга прыдушыць, з імі **трэба ўжыцца**, іх можна (і павінна) перарабіць, перавыхаваць толькі вельмі працяглай, павольнай асцярожнай арганізатарскай работай» (Ленин, том XXV, стр. 190, изд. 3-е)

і гэта можна зрабіць толькі

> «пераходам ад аднаасобнай адасобленай дробна-таварнай гаспадаркі да абагуленай буйнай гаспадаркі» (Ленин, том XVI, стр. 351, изд. 1-е).

Рабочы клас пад кіраўніцтвам партыі большэвікоў, не гледзячы на цяжкасці і складанасці гэтай задачы, за 16 год дабіўся на гэтым участку велізарнейшых поспехаў. Селянін-серадняк пераканаўся ў рэальнай выгадзе соцыялістычнага шляха развіцця, г. зн. калектывізацыі, і асноўная маса сераднякоў,

следам за беднякамі, павярнула на соцыялістычны шлях развіцця.

Цяпер звыш 70 проц. усяго працоўнага сялянства СССР арганізавана ў калгасы і гэтыя калгасы апрацоўваюць звыш 80 проц. усёй пасеўнай плошчы. У БССР калектывізавана на 1/VIII-33 года 50,3 проц. сялянскіх двароў.

За гады першай пяцігодкі мы маем значны рост пасеўнай плошчы.

Пасеўная плошча БССР (у тыс. *га*)

| | 1916 г. | 1927 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|
| Увесь пасеў . . . | 2389,4 | 3377,4 | 3983 |
| У тым ліку: | | | |
| Совгасы . . . | — | 37,6 | 195 |
| Калгасы . . . | — | 22,2 | 1782 |
| Аднаасобнікі . . | — | 3317,6 | 2006 |

Значна павялічылася плошча пад тэхнічнымі культурамі. На тэрыторыі сучаснай БССР у 1916 г. было засеяна ільну 94 500 **га,** а ў 1927 г. пасевы ільну ўжо займалі 136 300 **га,** у 1932 г.—279 тыс. **га.** Такое-ж становішча з пасевамі бульбы, якой у 1916 г. было засеяна 212 600 **га,** у 1927 г. 446 400 **га,** а ў 1932 г. ужо 619 тыс. **га.**

Узмацнілася машынізацыя сельскай гаспадаркі БССР. Так, напрыклад, колькасць збожжавых сявярак за гэтую пяцігодку павялічылася ў 11,4 разоў, сенакасілак—

у 8,8 разоў, снопавязалак — 7,9 разоў, бульбакапалак—у 11,8 разоў, ільнамялак— 18,5 разоў. Апроч таго, мы за гэтую пяцігодку далі новыя віды сельскагаспадарчых машын: тукавыя сявяркі, ільнацерабілкі, сілосарэзкі і інш.

Рэзка ўзнялася роля социялістычнага сектара ў развіцці жывёлагадоўлі. У 1927-28 г. у совгасах БССР было 4 670 рабочых коняй, у 1932 г. ужо 16 800 шт. Кароў было ў пачатку пяцігодкі ў совгасах 8 975 галоў, цяпер 32 500, або павелічэнне на 362 проц. Стада свіней у совгасах у пачатку пяцігодкі складала 2 491 шт., у 1932 г. было 105 тыс. шт. У калгасах у 1928 г. коняй было 4 287, цяпер 357 тыс. Буйнай рагатай жывёлы калгасны сектар меў 12 466 шт., цяпер ён мае 381 тыс. шт. Свіней было 3 180, цяпер 130 тыс. шт. З гэтага відаць, што роля соцыялістычнага сектара ў развіцці жывёлагадоўлі ўзнялася ў некалькі дзесяткаў раз, і што соцыялістычны сектар жывёлагадоўлі з'яўляецца вядучым сектарам.

Перамогамі ў галіне калектывізацыі партыя канчаткова вырашыла праблему «хто каго?» у сельскай гаспадарцы на карысць соцыялізма.

Аднак было-б глыбока памылковым і шкодным думаць, што раз капіталістычныя элементы торада і вёскі разбіты, фундамент соцыялістычнай эканомікі пабудаван, перамога соцыялізма ў СССР забяспечана, то мы

нібыта маем зараз патуханне класавай барацьбы.

> «Некаторыя таварышы зразумелі тэзіс аб знішчэнні класаў, аб стварэнні бяскласавага грамадства і адміранні дзяржавы, як апраўданне гультайства і дабрадушша, апраўданне контррэвалюцыйнай тэорыі патухання класавай барацьбы і аслаблення дзяржаўнай улады. Няма чаго і казаць, што такія людзі не могуць мець нічога агульнага з нашай партыяй. Гэта перараджэнцы, або двурушнікі, якіх трэба гнаць вон з партыі. Знішчэнне класаў дасягаецца не шляхам патухання класавай барацьбы, а шляхам яе ўзмацнення...
>
> Моцная і магутная дыктатура пралетарыята,—вось што нам патрэбна цяпер для таго, каб развеяць ушчэнт апошнія рэшткі паміраючых класаў і разбіць іх зладзейскія махінацыі». (Сталін, Вынікі першай пяцігодкі, стар. 47.)

«Класавая барацьба ў вёсцы да стварэння калгасаў азначала барацьбу з кулаком, які ўладаў аруддзямі і сродкамі вытворства і закабаляў сабе беднату пры дапамозе гэтых аруддзяў і сродкаў вытворства» (Сталин, Вопросы ленинизма, стр. 354, изд. 9-е). Класавая-ж барацьба на базе калгасаў адбываецца ва ўмовах, калі «кулак разбіт і па-

збаўлен арудзяў і сродкаў вытворчасці..., беднякі і серадцякі аб'яднаны ў калгасы, на базе абагулення асноўных арудзяў і сродкаў вытворства» (там-жа, стар. 455).

Гэтая барацьба вядзецца як з пралезшым у калгас класавым ворагам, так і з тым, які па-за ім вядзе падрыўную работу. Гэтая барацьба вядзецца, далей, у калгасах за выгнанне адтуль індывідуалістычных і кулацкіх перажыткаў. Гэтая барацьба адбываецца з рэшткамі кулацкіх элементаў, якія дзейнічаюць «ціхай сапай», вядуць шалёную барацьбу супроць новага калгаснага ладу. Узяць хоць-бы такі прыклад, як спробы кулакоў падарваць мерапрыемствы партыі і ўрада па забеспячэнню кожнага бескароўнага калгасніка цялятамі. І тут мы маем праяўленне жорсткай класавай барацьбы, шалёнае імкненне кулацтва падарваць калгасны лад і палітыку партыі зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі.

Перад намі стаіць карэнная задача перавыхавання калгасніка, выкарчоўвання яго дробнаўласніцкай сялянскай псіхалогіі, каб зрабіць яго свядомым будаўніком соцыялістычнага грамадства. Барацьба за соцыялістычнае перавыхаванне калгасніка ёсць форма класавай барацьбы, за ахову, узмацненне, развіццё і павелічэнне соцыялістычнай уласнасці, за ашчадныя да яе адносіны, за дакладнае і безумоўнае выкананне абавязкаў перад совецкай дзяржавай, за пра-

вільную соцыялістычную арганізацыю працы, за соцыялістычную дысцыпліну працы, за высокую якасць работы, за павышэнне даходнасці калгасаў, а тым самым і калгасніка.

## Значная частка калгаснікаў стала заможнай

Зрабіць калгасы сапраўды большэвіцкімі, ачысціць калгасы ад кулацкіх элементаў, шкоднікаў, гультаёў і жулікаў, умацаваць кіраўніцтва калгасаў большэвіцкімі кадрамі, адданымі справе соцыялістычнага будаўніцтва, па сапраўднаму ўзяцца за ўмацаванне калгасаў, за ўздым ураджайнасці калгасных палёў, зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі,— вось лозунгі, пастаўленыя правадыром партыі і рабочага класа т. Сталіным перад партыяй і перад усёй краінай.

Пад гэтымі лозунгамі краіна правяла веснавую сяўбу, уборку, азімую сяўбу, збожжапастаўкі, пад гэтымі лозунгамі завяршаецца зябліва.

Многія калгасы, паспяхова справіўшыся з усімі сельскагаспадарчымі работамі, датэрмінова выканалі гадавыя планы збожжапаставак, стварылі насенныя, страхавыя і фуражныя фонды і прыступілі да размеркавання ўраджая па працаднях. Нярэдка можна ў нас на Беларусі ўбачыць калгасы, у якіх на працадзень прыпадае 8—9 кіло збожжавых культур і 10—12 кіло бульбы. Часта можна

сустрэць былога бедняка, ніколі не меўшага свайго ўласнага хлеба больш чым на 3-4 месяцы ў год і які сёлета ў калгасе зарабіў столькі, што яму хапае не толькі на сытае жыццё, але і на культурнае жыццё.

Мяняецца твар калгаснай вёскі. Калгасныя вёскі набываюць новы культурны выгляд. Расце ў калгасе не толькі заможнасць кожнага калгасніка паасобку, але і расце агульная калгасная маёмасць.

Возьмем калгас «Чырвоная Вясея», Слуцкага раёна. Вось што гаворыць пра свой калгас яго старшыня т. Сініца Кастусь:

> «Гаспадарча і арганізацыйна наш калгас значна ўмацаваўся. Мы значна выраслі. За адзін год мы пабудавалі добра абсталяваны свінарнік, пры ім новую хату для свінарак. Пабудавалі бульбахавальнік на 12 тыс. пудоў бульбы. Будуем абору на 75 кароў, стайню на 20 коняй другой брыгады. Мы разбіраем былыя сялянскія гумны, хлявы, кулацкія свірны і ўвесь будаўнічы матэрыял выкарыстоўваем для новага будаўніцтва».

Або возьмем рабочую праграму калгаса імя Сталіна, Рагачэўскага раёна. Вось што гаворыць старшыня калгаса т. Ахранкоў:

> «Цяпер мы ствараем усе ўмовы, каб рушыць уперад жывёлагадоўлю, як і

паляводства. Для гэтай мэты заканчваем будаўніцтва цялятніка, думаем пабудаваць свінарнік. Пабудуем яшчэ павець для інвентара, пераабсталюем кузьню з майстэрняй і млын з механічным рухавіком, каб асвятліць электрычнасцю абору і стайню, механізуем падачу вады. На малочнай ферме пагалоўе давядзем да 200 штук, на свінагадоўчай—да 240. Ёсць у нас і пчалярная гаспадарка, якая ўжо дае даход калгасу. Будзем яе развіваць і надалей. Пабудуем амшанік на 50 сямей.

Для таго, каб наш калгаснік жыў культурна, радасна і весела мы сёлета абсталёўваем чырвоны куток з радыё і бібліятэкай, пабудуем лазню, каб калгаснік меў дзе памыцца, і цырульню. Зараз у нас абвешчан месячнік чыстаты, каб да Кастрычніцкіх свят прывесці ў парадак усе калгасныя двары, хаты і вуліцы».

Множацца поспехі калгаснай вёскі. Рост электрыфікацыі краіны ахоплівае электрычнасцю і калгасы. У 1931 г. на Аршаншчыне толькі ў 5 калгасах і совгасах загарэліся лямпачкі Ільіча. Толькі 5 матораў загулі на калгасных таках. У 1932 г. ужо электрыфікавана было 19 совгасаў і калгасаў. На малацьбе замест 5, працавала 7 электраматораў магутнасцю ў 100 кіловат. У 1933 г. толькі

на адной малацьбе электрасіла замяніла 42 700 коне-дзён. Абмалочана на адной Аршаншчыне звыш паўмільёна кілограм збожжа. Абмалаціць, звеяць і адсартаваць адзін цэнтнер збожжа калгасам абыходзіцца ўсяго ў 14 кап.

Гэта толькі рэзультаты малацьбы. Але электрычнасць усё больш пранікае і на іншыя працэсы калгаснага вытворства. Не горшыя вынікі электрарухавікі даюць і на сіласаванні, і на абмалоце ільну, і на водаснабжэнні калгасных жывёлагадоўчых ферм.

## Жабрацкае становішча сялянства ў капіталістычных краінах

Поспехі нашай колектывізацыі, поспехі нашага калгаснага сялянства асабліва ясна бачны на фоне зруйнавання і збяднення сялянства ў капіталістычных краінах, на фоне заняпада сельскагаспадарчага вытворства ў краінах, ахопленых сусветным эканамічным крызісам.

Возьмем становішча **кітайскай** вёскі. У правінцыі Шэнсі з 1929 да 1932 г. ад голада вымерла 1½ млн. чал., у правінцыях Хенан 2½ млн. чал., Гуйджоў 1 млн. чал. Пад пагрозай галоднай смерці там зараз знаходзіцца 3—4 млн. чал. У правінцыі Гансю памерла ад голада 3½ млн. чал., галадаюць 2½ млн. чал. У правінцыі Хунань галадаюць 7 млн. чал., Джансю 8 млн. чал., Гуанду 12 млн. чал. Та-

кое-ж становішча ва ўсіх астатніх правінцыях Кітая.

Буржуазная газета «Палітыка» піша:

«Селянін **Герцаговіны** (Юга-Славія) галадуе ў поўным сэнсе гэтага слова... Ёсць вёскі, дзе ў шмат якіх хатах даўно ўжо не бачылі хлеба. Пакуль было крыху кукурузы, елі кукурузу, потым пачалі збіраць траву».

**Далмацыя:**

«Людзі жывуць літаральна горш жывёлы, яны спяць на падлозе. Іх хаты—зямлянкі без вакон і падлогі. Тут спіць бацька, дзеці, вельмі часта тут-жа знаходзіцца і дробная жывёла».

Паводле падлікаў сельскагаспадарчага міністэрства **ПАЗШ** 175 тыс. трактараў у пачатку вясенняй сяўбы не выкарыстоўваліся. Зруйнаваныя крызісам фермеры не маглі аплаціць выдаткі па іх рамонту і ўтрыманню.

У паўднёвай частцы **Іспаніі**—больш ½ млн. дробных сялян. Каля 40 проц. усіх земляробаў гэтай часткі краіны ўладаюць участкамі не больш 1 **га.** Разам усе іхныя гаспадаркі складаюць усяго толькі 1 проц. плошчы гэтай часткі краіны.

І наадварот, 2 проц. земляробаў уладаюць 67 проц. плошчы. Такія памешчыкі, як герцог Альбо і інш. маюць па 20—30 тыс. **га,** ім належаць цэлыя акругі. Уся правінцыя Хаэн фактычна падзелена паміж 12 памешчыкамі.

Паслухаем, што піша японскі пісьменнік аб становішчы **японскага** сялянства.

«Становішча нашага сялянства сапраўды трагічнае. Крызіс усё глыбей і глыбей пранікае ў вёску. Селянінвытворца церпіць велізарныя страты. Розніца паміж цэнамі ў горадзе і вёсцы велізарная. Голад ужо даўно з'яўляецца сумным госцем у нашай вёсцы. У апошні час ён асабліва ўзмацніўся, ахапіўшы велізарную частку сялянства, нават больш-менш «заможныя» слаі насельніцтва. Галоўнай стравай сялян цяпер звычайна з'яўляецца мякіна, трава, карэнні і нават салома. Наглядаюцца масавыя выпадкі смерці ад недаядання. Маса самазабойстваў.

Але самае жудаснае ў вёсцы—гэта масавы продаж маладых дзяўчат у публічныя дамы, а юнакоў у няволю... Прадаюць нават дзяўчат-вучняў пачатковых школ па цане ад 3-х да 10-ці іен».

Спынімся на становішчы сялян у **Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне.**

Сёлета ўраджай у Польшчы быў больш чым здавальняючы. Паводле папярэдніх падлікаў жыта сабрана на 4,6 проц. больш чым летась. Не гледзячы на скарачэнне пасеўнай плошчы пшаніцы сабрана на 3,8 проц. больш чым летась. У нармальных умовах такі ўраджай быў-бы радасцю. Ва ўмовах крызіса

ураджай стаў народным горам. З'яўленне новага ўраджая на рынку прывяло да катастрафічнага падзення цэн. За цэнтнер жыта, за які да крызіса плацілі 34 злотых, у сярэдзіне жніўня гэтага года плацілі толькі 18 злотых, а ў верасні 13 злотых. Гэта аднак не ўсё,— біржавая цана існуе для багатыра, памешчыка і для буйных гандляроў.

Сярэднія цэны на базары дакаціліся да 10 злотых, а ў больш далёкіх вёсках да 8 і 6 злотых. Між тым паводле падлікаў польскага інстытута па вывучэнню праблемы дробнага і сярэдняга земляробства сабекошт цэнтнера жыта селяніну ровен 25 злотых. Таму няма нічога дзіўнага, што з новым падзеннем цэн адразу па ўсёй Польшчы загаварылі аб катастрофе, а свята ўраджая вылілася ў форменную паніку.

Паслухаем, што гаворыць газета віленскіх памешчыкаў—«Слово»:

> «Мясцовы камітэт дапамогі выдае сялянцы некалькі злотых з прычыны надзвычайна вялікай беднасці яе. Жанчына распісваецца ў атрыманні дапамогі, але вось тут радам яе чакае судовы выканаўца, які забірае атрыманую дапамогу на пакрыццё запазычанасці па падатках».

Хтосці з польскіх журналістаў назваў верасень і кастрычнік судовымі месяцамі. Нядаўна закончыўся ў Кобрыне палявы суд

над беларускімі сялянамі і маладой рэвалюцыянеркай Рэгінай Каплан, якія абвінавачваліся ў арганізацыі ўзброенага выступлення сялян у Новасёлках. Суд над астатнімі ўдзельнікамі сялянскага выступлення ў Навасёлках у колькасці 24-х адбудзецца ў бліжэйшыя дні. У кастрычніку адбыўся цэлы рад працэсаў супроць удзельнікаў узброенага паўстання ў Кракоўскім і Львоўскім ваяводствах, на якіх прыцягвалася да адказнасці 117 сялян. Адбудзецца яшчэ вялікі працэс у Ковелі і рад дробных працэсаў у іншых гарадах.

Гэта прыклады толькі з некалькіх буржуазных краін, якія даволі ясна паказваюць становішча сялянства пры ўладзе буржуазіі.

Толькі ў краіне пролетарскай дыктатуры расце заможнасць, дабрабыт і культура калгаснай вёскі. Толькі пры калгасным ладзе сялянства выбралася з жабрацтва і цемры, у якіх яно стагоддзямі марнела.

## Расце новая соцыялістычная культура

XVI гадавіну Кастрычніка мы сустракаем велізарнымі заваёвамі соцыялістычнай культуры і тэхнікі, якія пераатвараюць твар нашай краіны. Разбуджаныя Кастрычніцкай рэволюцыяй, вызваленыя савецкай уладай ад ярма капіталізма народы Савецкіх рэспублік ахоплены магутнай хваляй творчага энтузіязма.

Ніводная капіталістычная дзяржава нават у гады свайго росквіта не ведала такіх бурных тэмпаў культурнага ўздыма мас, якія дасягнуты намі дзякуючы перамогам соцыялістычнага будаўніцтва. Досыць падаць такі прыклад: у гэтым годзе кантынгент дзяцей і дарослых, ахопленых навучальна-выхаваўчымі ўстановамі — школамі, дашкольнай сеткай, ВНУ, курсамі, па СССР дасягае 50 млн. чал., а ў БССР каля 1½ млн. чал. Тут, у былой калоніі царызма, дзе панавала цемра і непісьменнасць, соцыяльны і нацыянальны ўціск,—зараз, дзякуючы Кастрычніку і няўхільнаму ажыццяўленню ленінскай нацыянальнай палітыкі нашай партыі, ліквідуюцца рэшткі эканамічнай і культурнай няроўнасці, квітнеюць соцыялістычныя культуры. БССР стала краінай суцэльнай пісьменнасці.

Значна палепшыўся і дабрабыт працоўных мас. Мы жывем, змагаемся і перамагаем не дзеля чыёй-небудзь нажывы, наша мэта—разгарнуць вытворчыя сілы для падняцця матэрыяльнага ўзроўня рабочых мас, для таго, каб зрабіць усіх калгаснікаў заможнымі, для таго, каб жылі ўсе працоўныя ў дастатку. Карэнным чынам палепшаны культурныя ўмовы і быт працоўных. Рост зарплаты, соцыяльнае страхаванне, ахова мацярынства і мladзенства, ахова здароўя працоўных, тэмпы жыллёвага будаўніцтва,—усё гэта велізарныя заваёвы Кастрычніка.

У соцыялістычнай вёсцы ў апошніх схват-

ках з рэшткамі старога нараджаецца новая, соцыялістычная культура, культура вольнай працы. Рэальна на справе знішчаецца супроцьлегласць паміж горадам і вёскай. Нельга недаацаніць такі, напрыклад, факт, як зусім змяніўшаеся становішча вясковай жанчыны ў калгасе. З'яўляючыся раўнапраўным членам калгаса, выконваючы працу на калгасных палях, калгасніца атрымлівае свае, а не мужа, або бацькі працадні. Гэта значыць, што яна атрымала эканамічную незалежнасць, перастала залежаць ад аднаго гаспадара і яго гаспадаркі. Адбываецца велізарны пералом у свядомасці жанчыны-калгасніцы, яна стала вялікай сілай, актыўным будаўніком калгаснага ладу.

Толькі ў нас, у краіне соцыялізма, забяспечан рост новага, сапраўды моцнага, здаровага пакалення. Палепшаны дабрабыт працоўных, клопаты дзяржавы аб абслугоўванні маці і дзіцяці знаходзяць сваё адлюстраванне і ў лічбах прыроста насельніцтва з года ў год (у 1910 г. 19,7 проц., у 1933 г. 22,4 проц.), у рэзкім змяншэнні смяротнасці сярод дзяцей. Соцыялізм выкоўвае моцнае пакаленне будучых работнікаў комуністычнага грамадства.

## Перамога ленінскай нацыянальнай палітыкі

На аснове заваёў Кастрычніка мы стварылі дабраахвотны соцыялістычны Совецкі саюз

народаў, якія супольнымі сіламі будуюць сваю социялістычную бацькаўшчыну, знішчылі нацыянальны здзек, устанавілі сапраўды брацкія адносіны між народамі. Ажыццяўляючы ленінска-сталінскую нацыянальную палітыку, наша комуністычная партыя дабілася росквіта эканамічнага жыцця, ліквідацыі фактычнай няроўнасці паміж народамі, шырокага развіцця нацыянальных соцыялістычных культур раней прыгнечаных нацыянальнасцяй.

Асабліва відочны нашы поспехі ў галіне культурнага будаўніцтва БССР. Возьмем некалькі лічбаў, характарызуючых рост пісьменнасці ў нашай, раней амаль што непісьменнай, краіне. Глянем у таблічку.

Ліквідацыя непісьменнасці

(Процант пісьменных да ўсяго насельніцтва)

| Ва ўзросце: | 1926 г. | | 1931 г. | |
|---|---|---|---|---|
| 10—15 год | 65,6 | проц. | 100,0 | проц. |
| 16—50 „ | 57,1 | „ | 94,2 | „ |
| 10—50 „ | 59,0 | „ | 95,3 | „ |

Цяпер у нашай рэспубліцы можна ўжо налічыць вёскі і раёны, дзе амаль што зусім няма непісьменных. Гэтых поспехаў Совецкая Беларусь магла дасягнуць толькі дзякуючы правільнаму правядзенню ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Мы дасягнулі велізарных поспехаў у бу-

даўніцтве культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу. Усёй практыкай сваёй работы партыя паказала, з якой велізарнай увагай яна адносіцца да патрэб раней прыгнечаных нацыянальнасцяй. Партыя змагаецца са ўсякімі праявамі ўхілаў у нацыянальным пытаньні, лічачы галоўнай небяспекай на даным этапе вялікадзяржаўны шавінізм. У той-жа час партыя вядзе бязлітасную барацьбу з мясцовым нацыяналізмам, з шавінізмам розных колераў.

З прычыны невыстарчальнай класавай пільнасці, мы сёлета мелі факты прасочвання ў літаратуру, а таксама і ў школу, класававарожых нацыянал-дэмакратычных уплываў. З'яўленне нацыяналістычных твораў у нашых журналах, вылазкі нацыянал-дэмакратычных і бундыцкіх элементаў—усё гэта паказвае на шалёнае супраціўленне разгромленага, але не дабітага яшчэ класавага ворага разгорнутаму соцыялістычнаму наступленню па ўсім фронце. Разам з гэтым ёсць факты паслаблення беларусізацыі, што грае на руку вялікарускаму шавінізму і сведчыць аб яго актывізацыі.

Далейшыя поспехі ў нацыянальна-культурным будаўніцтве мажлівы толькі пры ўмове ўзмоцненай барацьбы супроць ухілаў ад нацыянальнай палітыкі партыі, супроць механістычнага яе правядзення, супроць антысовецкіх і нацыяналістычных элементаў, якія

хаваюцца пад фальшыва-нацыянальным сцягам.

Задача партыі ўзняць большэвіцкую пільнасць на фронце нацыянальна-культурнага будаўніцтва як і на ўсіх участках нашага будаўніцтва, даць рашучы адпор усякім вылазкам класавага ворага, змагацца са ўсякім прымірэнцтвам і гніла-ліберальнымі адносінамі да класавага ворага і яго апартуністычнай агентуры, няўхільна змагацца з вялікадзяржаўным шавінізмам, контррэвалюцыйным нацыянал-дэмакратызмам і шавінізмамі іншых колераў. Гэта з'яўляецца абавязковай умовай пераможнага руху ўперад па шляху канчатковага знішчэння рэшткаў капіталізма і пабудовы бясклассавага соцыялістычнага грамадства.

## Фашызм—зброя імперыялістычнай буржуазіі

Заняпад капіталістычнага вытворства, які асабліва павялічыўся ў 1933 г., на фоне поспехаў СССР асабліва ясна паказвае гніенне капіталізма. Сёння яшчэ нельга даць вычарпальнай ацэнкі страт, пароджаных крызісам. Але і тыя даныя, што ў нас ёсць, не пакідаюць ніякіх сумненняў у тым, што гэтыя страты велізарныя, што няма ім роўных у гісторыі капіталістычных крызісаў.

Надзвычай вялікія страты, выкліканыя крызісам, характарызуюцца дынамікай народнага дахода капіталістычных краін. Вось ліч-

)ы па самых буйных капіталістычных краін— ПАЗШ і Германіі:

**Народны даход**

| Гады | ПАЗШ (млрд. даляраў) | Германія (млрд. марак) |
|---|---|---|
| 1929 . . . . | 89,5 | 76,0 |
| 1930 . . . . | 71,0 | 70,1 |
| 1931 . . . . | 52,4 | 57,1 |
| 1932 . . . . | 42,1 | 40,1 |
| Страты за тры гады ў параўнаньні з 1929 г. | 103 | 60,7 |

Толькі за тры гады крызіса ў гэтых краінах на 5 млрд. марак знізіўся народны даход. За тры гады крызіса ў параўнанні з 1929 г. сума заработнай платы рабочых у ПАЗШ зменшылася на 48 млрд. даляраў, а колькасць даходаў фермераў—на 14 млрд. руб. Гэта значыць, што крызіс галоўным чынам ударыў па рабочаму класу. І асноўнае, што сёння характарызуе ўсе капіталістычныя краіны,—гэта беспрацоўе дзесяткаў мільёнаў рабочых, масавае галаданне.

І гэтае масавае беспрацоўе, смяротнасць і галаданне мільёнаў пролетарыята з'яўляецца найбольш цяжкім вынікам крызіса капіталістычнай эканомікі. Гэтыя вынікі не вылічваюцца ў мільярдах даляраў, а яны безумоўна ў шмат разоў большыя, чым страты ў выніку недагрузкі вытворчага апарата, знішчэння фабрык, заводаў і варштатаў.

У другой палове 1932 г. сусветны эканамічны крызіс уступіў у новую фазу свайго развіцця. Новая фаза характарызуецца надзвычайным абвастрэннем імперыялістычных супярэчнасцяй паміж важнейшымі капіталістычнымі краінамі. Галоўнымі з гэтых супярэчнасцяй з'яўляецца супярэчнасць паміж ПАЗШ і Англіяй, далей ідуць супярэчнасці паміж Амерыкай і Японіяй, Германіяй і Францыяй і іншымі краінамі. Гэтая новая фаза крызіса характарызуецца ўсё больш паглыбляючымся абвастрэннем усіх супярэчнасцяй імперыялізма. Гэтымі супярэчнасцямі ўсё больш паскараецца пераход да новага тура рэвалюцый і войн.

Нацыянал-соцыялізм узнік у перыяд усеагульнага крызіса капіталістычнай сістэмы. Фашызм наогул, італьянскі, польскі, латвійскі або амерыканскі з'яўляецца прадуктам крызіса капіталізма, як сістэмы. Фашызм ёсць выяўленне няздольнасці буржуазіі справіцца з пралетарыятам, забяспечыць сябе ад пралетарскай рэвалюцыі «нармальнымі» метадамі, г. зн. метадамі ашуканства, парламенцкага абдурвання, буржуазна-дэмакратычнага разбэшчання мас. Сусветны эканамічны крызіс вельмі паскорыў развіццё фашызма ў цэлым радзе буржуазных краін. У фашызме буржуазія бачыць, па-першае, сродак, каб выйсці з крызіса і, па-другое, магчымасць прыдушыць комунізм, пакончыць з рэвалюцыянізаваннем пралетарскіх мас.

Нямецкая социял-дэмакратыя працерабіла шлях фашызму. Яна раскалола рабочы клас, ашукваючы рабочыя масы, якія знаходзіліся пад яе ўплывам, лозунгамі дэмакратыі і парламентарызма, сеючы ілюзіі аб магчымасці ажыццяўлення соцыялізма без рэволюцыі. Усёй сваёй палітыкай соцыял-фашызм дапамагаў Гітлеру захапіць уладу.

Што даў нямецкі фашызм пролетарыяту?

Мільёны рабочых зняты са ўсіх відаў страхавання. Бюджэт 1934 г. прадбачыць скарачэнне дапамогі беспрацоўным на 410 млн. марак.

Ніколі дарагоўля гэтак не біла па галодных, зруйнаваных, на палову або зусім беспрацоўных мас горада і вёскі, як цяпер, калі гітлераўскі ўрад даў памешчыкам мільярды марак праз павышэнне цэн на прадукты і таможанай вайны.

Ніколі яшчэ ў Германіі гвалт не быў такім цяжкім для мас горада і вёскі як зараз. Падаткі душаць дробных гандляроў, рамеснікаў і інш. Ніколі буйны капітал не карыстаўся такой фінансавай і юрыдычнай дапамогай дзяржавы, як цяпер.

Замест хлеба, такім чынам, нямецкі фашызм корміць рабочы клас кулямі. Шыбеніцамі ў Альтоне, Хемніце, Дзюсельдорфе і ў іншых гарадах Германіі фашызму не ўдалося запалохаць гераічны нямецкі пролетарыят, які змагаецца пад слаўным кіраўніцтвам компартыі з фашысцкай дыктатурай.

Пацярпеўшы вялікае паражэнне на ўсіх франтах сваёй палітыкі нямецкі фашызм знайшоў сродак для адцягнення ўвагі шырокіх мас ад становішча ў Германіі метадам арганізацыі так званага Лейпцыгскага працэса супроць комуністаў. Працэс павінен, па думцы фашысцкіх правакатараў, ператварыцца ў велізарнейшую дэманстрацыю супроць міжнароднага комуністычнага руху, супроць большэвізма.

Шырока задуманая правакацыя супроць нямецкіх комуністаў павінна паслужыць для фашыстаў адным з сродкаў адурманьвання шырокіх мас дробнай буржуазіі і стварэння пагромнай атмасферы супроць рэволюцыйнага рабочага класа. Але нямецкаму фашызму не ўдалося і не ўдасца нікога адурманіць, нікога пераканаць у тым, што рэйхстаг падпален комуністамі. Увесь свет пераканаўся ў тым, што рэйхстаг падпалілі нямецкія фашысты—Герынгі, Гэбельсы і інш. для таго, каб праз гэтую правакацыю захапіць усю ўладу ў свае рукі.

У надзвычайна цяжкіх умовах прыходзіцца працаваць і змагацца нямецкаму пролетарыяту. Супроць КПГ выступае не толькі тэрор фашысцкай дыктатуры. Яе хочуць разбіць пры дапамозе правакацыі, пры дапамозе контррэволюцыйнага ахвосця трацкістаў і брандлераўцаў. Тое, што КПГ гранітнай скалой устояла перад усімі атакамі, тое, што мільённыя масы жалезнай сцяной акру-

жылі сваё кіраўніцтва, тое, што пад сцягі КПГ і Комінтэрну ідуць мільённыя арміі пролетарыяў Германіі і іншых краін, даказвае, што компартыя Германіі з гонарам вытрымае ўсе баі з фашысцкай дыктатурай.

Рэволюцыя пролетарыята ідзе нястрымнымі шпаркімі крокамі. Пацвярджаецца правільнасць характарыстыкі сучаснага перыяда XII пленума ВККІ, як перахода да новай эпохі рэволюцый і войн. Да гэтай новай паласы пролетарскіх рэволюцый і войн капіталізм, развітаўшыся са сваёй стабілізацыяй, нясецца з нястрымнай сілай. Новы тур рэволюцый і войн будзе адзначаць сабой перамогу пролетарыята ў радзе важнейшых капіталістычных краін. Рост компартый, заваяванне імі ўсё большага і большага ўплыва на самыя шырокія масы рабочых, велізарны рост аўтарытэта компартыі і расчараванне шырокіх мас, якія дагэтуль ішлі за соцыял-фашыстамі і, нарэшце, гіганцкі рост і ўзмацненне эканамічнай і палітычнай магутнасці краіны соцыялізма—з'яўляецца залогам таго, што перамога будзе за намі, што пераможа пролетарыят.

## Поспехі мірнай палітыкі СССР

Мы ўжо гаварылі, што сучасная міжнародная абстаноўка характарызуецца небывалым абвастрэннем супярэчнасцяй у імперыялістычным лагеры, якая ўсё больш пагражае новай імперыялістычнай бойняй. Досыць пе-

ралічыць падзеі, якія адбываюцца на Далёкім Усходзе ў сувязі з захватніцкімі аперацыямі Японіі ў Кітаі, правакацыйнай дзейнасцю японскага імперыялізма на КУЧ, крах Лонданскай эканамічнай канферэнцыі, поўнае банкруцтва Жэнеўскай канферэнцыі па раззбраенні, выхад Германіі з Лігі нацый і адмаўленне ад удзела ў канферэнцыі па раззбраенні. І калі супаставіць усе гэтыя факты з велізарнейшым ростам узбраенняў ва ўсім капіталістычным свеце, то вельмі відочным стане небяспека выбуха новай імперыялістычнай вайны.

Толькі СССР—краіна пролетарскай дыктатуры, з'яўляючыся магутным фактарам міра, выкрывае падрыхтоўку імперыялістаў да вайны, вядзе палітыку міра. За апошні час СССР атрымаў цэлы рад буйных перамог у сваёй мірнай палітыцы. Заключэнне пактаў аб ненападзе з Францыяй і з Польшчай і ратыфікацыя цэлым радам краін лонданскай згоды аб вызначэнні нападаючай стараны,— з'яўляюцца яркімі паказчыкамі поспехаў мірнай палітыкі СССР. Яны гавораць, разам з тым, аб той паслядоўнасці і рашучасці, з якімі Савецкі саюз дабіваецца ўзмацнення справы міра, узмацнення нармальных адносін паміж СССР і другімі краінамі.

На гэтым фоне вялікай перамогай Савецкага саюза з'яўляецца агалошаны на пярэдадні XVI гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі зварот прэзідэнта ПАЗШ Рузвельта да т. Ка-

лініна з прапановай прысляць у Амерыку прадстаўніка для абмеркавання і ўстанаўлення нармальных адносін паміж ПАЗШ і СССР.

На фоне крызіса, шалёнай канкурэнцыі і роста ўзбраенняў, толькі адна краіна вядзе сапраўды незалежную, мірную палітыку. Гэтая краіна—СССР. Ёсць толькі адна краіна, якая знаходзіцца ў паласе безупыннага соцыялістычнага росквіта і якая назаўсёды вызвалілася ад замежнай залежнасці. Гэтая краіна—СССР.

Далейшае мірнае будаўніцтва, выкананне грандыёзных задач другой пяцігодкі шчыльна звязаны з узмацненнем абароназдольнасці Совецкага саюза. Абароназдольнасць краіны павінна быць узнята яшчэ на больш высокую ступень.

Моцная Чырвоная армія, акружаная ўвагай і рупліваспю працоўных усяго нашага Совецкага саюза і пролетарыята замежных краін, з'яўляецца лепшай зарукай мірнага будаўніцтва СССР.

## Пераможна завершым народнагаспадарчы план 1933 г.

У наш час, у эпоху пролетарскай рэволюцыі, у эпоху заняпада капіталізма, толькі пролетарыят, толькі яго комуністычная партыя—адзіныя сілы, якія змогуць развіваць вытворчыя сілы і вызваліць іх ад пут капіталізма. Аб гэтым гавораць 16 год рэволю-

цыйнай барацьбы і соцыялістычнага будаўніцтва ў СССР.

Але ўперадзе яшчэ вялікі шлях. Ажыццяўленне лозунга т. Сталіна—«Тэхніка ў перыяд рэканструкцыі вырашае ўсё»—патрабуе яшчэ ўпартай барацьбы. Не зазнавацца, вучыцца, вучыцца і яшчэ раз вучыцца. Рухацца ўперад так, як належа рэволюцыйнаму класу, перад якім стаяць вялікія задачы.

Умовай пераможнага завяршэння народнагаспадарчага плана 1933 г. з'яўляецца бязлітасная барацьба з класавымі ворагамі, барацьба з апартуністычнымі скажэннямі лініі партыі. Класавая барацьба абвастраецца. Узмацненне дыктатуры пролетарыята, рашучае прыдушэнне апошніх спроб з боку разгромленых капіталістычных элементаў затармазіць соцыялістычнае наступленне рабочага класа—вось наша баявая задача. Найвялікшая большэвіцкая пільнасць да класавага ворага, да найменшых парушэнняў лініі партыі, барацьба з правым апартунізмам—галоўнай небяспекай на даным этапе, з рэцыдывамі трацкізма і «левацкімі» скажэннямі генеральнай лініі партыі—вось штодзенная задача комуністаў. Гэта важнейшая ўмова выканання народна-гаспадарчага плана 1933 г.

1933 г. характэраан далейшымі класавымі зрухамі ў карысць соцыялізма. У соцыялістычнай прамысловасці і на транспарце ідзе вялікая барацьба за соцыялістычную дысцыпліну працы. Рабочы клас і калгаснае сялян-

ства ачышчаюць свае шэрагі ад лодыраў, рвачоў, ад кулацкага ахвосця, якое прабуе ўкрыцца на нашых социялістычных прадпрыемствах і шкодзіць нам.

Мы маем велізарны працоўны ўздым рабочых і калгасных мас. Вакол палітаддзелаў і ячэек партыі ў калгасах ствараецца актыў калгаснікаў. Вакол створаных партыяй палітаддзелаў на транспарце згуртоўваюцца лепшыя ўдарнікі-чыгуначнікі, якія паспяхова змагаюцца за выкананне транспартам задач, пастаўленых перад ім партыяй і ўрадам.

Значна ўзраслі і ўскладніліся задачы партыі на новым этапе. Для паспяховага вырашэння задач другой пяцігодкі партыя ачышчае свае рады ад апартуністаў, двурушнікаў і перараджэнцаў. Чыстка партыі прадэманстравала бязмежную адданасць і давер'е мільёных мас да партыі, да яе ленінскага штаба на чале з любімейшым правадыром сусветнага пролетарыята—т. Сталіным. Чыстка паказала непарушнае адзінства і загартаванасць радоў нашай партыі. Яе боездольнасць і гатоўнасць да барацьбы за перамогу другой пяцігодкі, за поўнае завяршэнне пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадства ў нашай краіне, за перамогу сусветнай пролетарскай рэволюцыі.

# ЗМЕСТ.

*Стар.*



---

Рэдактар З. Давідовіч
Літпраўка Ф. Паўлоўскі.
Карэктары: С. Дамаронак, Е. Чэкановіч.
Тэхрэдактар І. Мілешка.

Здана ў друкарню 28/X—33 г.
Падпісана да друку 31/X—33 г.
Набрана на лін. № 6.
Ад. кар. друк. А. Мацкевіч

Зак. 2337. 20.000 экз. Галоўлітбел. № 1514. Друк. імя Сталіна.